**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 33 (906) 17 жніўня 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by



**Будаўнікі, жыхары дамоў №№ 129-А і 135 па вул. Леніна арганізавалі свята для сябе.** Фота Ул. Скрабатуна. *Працяг на стар. 4.*

*Працяг на стар. 4.*

**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 2-е паўгоддзе 2017 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**

**Індэксы выдання**: індывідуальная – 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 96 кап.; **ведамасная – 636682**, кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 31 кап.



ISSN 2077-8023



## Аршанскі раён

# Нялёгкая доля ўпраўленца

■ Станіслаў Раманчук.

**Рэгулярна, некалькі разоў у месяц кіраўнік дзяржавы разглядае кадравыя пытанні і прызначае ўпраўленцаў высокага рангу.**

У пачатку жніўня сёлета такія прызначэнцы закранулі і Віцебшчыну, а найбольш нечаканымі сталі змены ў Аршанскім раёне. Сюды на пасаду старшыні райвыканкама быў пераведзены прэзідэнцкі памочнік – галоўны інспектар па Віцебскай вобласці 53-гадовы Аляксандр Пазняк. Амаль год гэта пасада ў Прыдзвінні была вакантнай, а сам Аляксандр кіраваў Савецкім раёнам Мінска. На сваёй папярэдняй пасадзе Пазняк адпрацаваў толькі паўтара года і за некалькі дзён да пераводу на Аршаншчыну правёў выязны працяглы прыём насельніцтва ў гарпасёлку Варапаева. Ягоны папярэднік у буйным усходнім раёне вобласці, які вырашыў у Мінску асабліва развіваць, Леанід Пянькоўскі главой Аршаншчыны быў прызначаны толькі ў сярэдзіне мая, адчуў пэўныя праблемы са здароўем. Неўзабаве пасля яго прызначэння ўся краіна даведалася, як у яго дом уварваліся сілавікі, а А. Лукашэнка абурыўся, чаму людзі ў пагонах так бесцырымонна абыходзяцца з людзьмі ягонай каманды. Папярэдні кіраўнік рэгіёна зразумеў, што здароўе ўжо не тое, каб вырашаць складаныя задачы, папрасіўся вызваліць ад адказнай працы. Адзінае, што аб новым прызначэнні Пянькоўскага нічога не паведамлялася. А вось у цяперашняга главы вобласці з'явіўся новы першы намеснік, ім стаў Алег Мацкевіч, які дагэтуль курыраваў сацыяльную сферу ў аблвыканкаме. Пайшоў на павышэнне ў Бешанковічах і ўзначаліў гэты раён Андрэй Булаўкін, які тут працаваў раней намеснікам начальніка райсельгасхарча.

## Пастаўскі раён

# Адрадзіўся з небыцця

■ Кастусь Александровіч

**Адразу некалькіх прамысловых прадпрыемстваў апошнім часам па розных прычынах спынілі сваю дзейнасць толькі ў Пастаўскім раёне.**

Дагэтуль стаяць зачыненымі ў гэтай мясцовасці шклозавод "Гута", Варапаеўскі завод ЖБВ, спіртзавод у Лынтупах, кансервавы завод у райцэнтры. У цэнтры горада цэлых 7 гадоў таксама бяздзейнічаў і мясцовы мясакамбінат, які імкліва пайшоў "на дно" пасля далучэння праблемнай гаспадаркі. Аднак сёлета летам сюды прыйшлі нарэшце людзі, пачалі добраўпарадкаванне тэрыторыі прадпрыемства, рамонт асноўных цэхаў. Мясакамбінат атрымаў шанец адрадзіцца з небыцця, калі ім зацікавіліся інвестары з Малдовы, кампанія з гэтай сферы. Мясцовыя ўлады перадалі дзелавым людзям бязвыплатна вытворчыя плошчы, бо зацікаўлены ў стварэнні новых рабочых месцаў. Утварылася новае ТАА пад назвай "Мясакамбінат Пастаўскі" і, як абяцала ў распрацаваным бізнес-плане, прыняла на працу некалькі дзясяткаў гараджан. Сюды ўжо пачалі закупляць і завозіць два малдаўскія інвестары з беларускім партнёрам неабходнае абсталяванне. У сярэдзіне восені павінен запрацаваць спачатку буйны цэх забою буйной рагатай жывёлы. Далей плануецца наладзіць замарозку мясных туш, крыху пазней выраб мясных паўфабрыкатаў і субпрадуктаў не толькі з ялавічыны, але і з свініны. Інвестары паабяцалі стварыць 60 новых рабочых месцаў. Прыватны Пастаўскі мэблевы цэнтр тым часам запускае новы свой завод па вырабе трохслойнай паркетнай дошкі. Аднак новая сучасная вытворчасць там аўтаматызаваная, большасць работнікаў перавялі з дзеючага прадпрыемства.

## Полацкі раён

# Яшчэ бліжэй да краху

■ Чэслаў Якубовіч.

**У адразу некалькіх элітных беларускіх футбольных клубаў сёлета ўзніклі значныя фінансавыя і кадравыя праблемы, а ў найбольш цяжкай сітуацыі апынуўся наваполацкі "Нафтан".** Літаральна на вачах гэта, некалі вельмі моцная каманда, пагуляўшая ў еўракубках, развальваецца і праз пару месяцаў вылеціць з вышэйшай лігі. Яна на апошнім месцы ў турнірнай табліцы, змагла забіць толькі 5 мячоў у 17 праведзеных матчах. Самая вялікая бяда, што ў навапалачан вісяць пастаянныя даўгі. Яны не выплачаны былым ігракам яшчэ за 2014 год. Па гэтай прычыне з клуба знялі пяць ачкоў перад пачаткам чарговага чэмпіянату Беларусі па футболе. Працяглы час у клубе нікому сярод спартсменаў і работнікаў не выплачваліся сёлета заробкі і лепшыя майстры пакінулі нафтаград, новых футбалістаў федэрацыя не дазваляла дабаўляць. У выніку дайшло да таго, што галоўны трэнер "Нафтана" Алег Сідарэнкаў пасля буйнога паражэння дома ад сталічнага "Дынама" ў пачатку другога круга нацыянальнага першынства падаў у адстаўку. На гэтым спецыялісце неяк каманда нафтаперапарцоўчага завода яшчэ трымалася, летась цудам пазбегла вылету ў ніжэйшы дывізіён. Усе беды ад таго, што самая папулярная гульня ў свеце проста непатрэбная стотысячнаму гораду. Горад не хоча аддаць камандзе мясцовы стадыён "Атлант", які з'яўляецца самым жахлівым па інфаструктуры ў краіне. У гэтым сезоне некалькі разоў толькі ў апошні момант знаходзіліся нейкія грошы, каб вывезці каманду на гульні ў іншыя гарады Беларусі. Ад адсутнасці сродкаў можа разваліцца і мясцовая школа падрыхтоўкі футбольнага рэзерву, а буйны Полацкі раён увогуле з цягам часу можа застацца без вялікага спорту, бо і хакей у Наваполацку таксама апынуўся ў гаротным становішчы.

# Аб самым надзённым

## УБОРКА ЗЕРНЕВЫХ У БЕЛАРУСІ З-ЗА КАПРЫЗАЎ НАДВОР'Я СЁЛЕТА ЗАЦЯГНЕЦЦА, АЛЕ ЗВЫШ 7 МІЛЬЁНАЎ ТОН ЗБОЖЖА КРАІНА АТРЫМАЕ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Хоць главы раёнаў і атрымалі шырокія паўнамоцтвы, але ж і яны не маюць магчымасці прывезці з сабой у вёску мяшок грошай, каб купіць запчасткі для камбайнаў, паліва для тэхнікі. У лепшым выпадку, як і раней, такім бедалагам прыйдуць на дапамогу талковыя суседзі, калі справяцца з уборкай на сваіх палях.**

Значна пазней звычайнага, толькі напрыканцы ліпеня ў паўднёвых рэгіёнах Брэстчыны і Гомельшчыны першымі пачалі ў гэтым годзе масавую ўборку вырашчанага збожжа. Увогуле для айчынных аграрыяў сёлета яшчэ з пачатку веснавой сяўбы цяжкасцей было вельмі шмат з-за праблем, якія ўвесь час падкідвала надвор'е. У кіраўніцтва Беларусі таму ўзнікла справядлівая трывога за лёс ўраджаю і пасля перапынку зноў прыйшлося правесці рэспубліканскую селектарную нараду па гэтым пытанні. Як вядома, размова атрымалася даволі жорсткая і прынцыповая, хоць у большасці краін кантынента такіх мерапрыемстваў на дзяржаўным узроўні не праводзіцца, там пытанні вырашаюцца на месцах самімі фермерамі ў рабочым парадку.

А вось у нас, як прызнаў А. Лукашэнка, "пока много безалаберности, элементарного разгильдяйства и досадных недоработок, которые в нынешних условиях недопустимы". Прэзідэнт, зразумела, ніякай Амерыкі не адкрыў, бо яшчэ перад гэтай нарадай Дзяржаўны сакратар Савета Бяспекі С. Зась падчас кантрольнай праверкі ходу ўборкі паведаміў, што 10 камбайнаў па краіне на палях ужо згарэлі. Людзям у пагонах сёлета далі вялікія паўнамоцтвы, каб меней было крадзяжоў зерня і паліва, выхаду са строю тэхнікі. А ўжо на самой нарадзе глава Беларусі даў самыя шырокія паўнамоцтвы падчас уборачнай кампаніі сваім падначаленым у глыбінцы старшыням райгарвыканкамам.

Справа ў тым, што фактычна ў кожным раёне краіны ёсць цяпер па 3-4 праблемныя гаспадаркі, па сутнасці банкруты. У кожнай з іх свае цяжкасці, а галоўная бяда – хранічная адсутнасць грошай і перспектыў неяк выжыць. Хоць главы раёнаў і атрымалі шырокія паўнамоцтвы, але ж і яны не маюць магчымасці прывезці з сабой у вёску мяшок грошай, каб купіць запчасткі для камбайнаў, паліва для тэхнікі. У лепшым выпадку, як і раней, такім бедалагам прыйдуць на дапамогу талковыя суседзі, калі справяцца з уборкай на сваіх палях. Іншая справа, што паўсюдна завяршыць жніво да 20 жніўня, як было загадана, не атрымаецца.

Справа ў тым, што па разліках спецыялістаў НПЦ НАН Беларусі па земляробстве, з улікам цяперашняй тэхнічнай аснашчанасці айчынных гаспадарак і максімальнай выпрацоўкі на кожны камбайн закончыць жніво сёлета рэальна можна за 17-25 дзён, у залежнасці ад абласцей. Лічыце самі, селектарную нараду праводзілі 2 жніўня, калі было вядома, што асабліва ў паўночных рэгіёнах Віцебшчыны паспяванне хлябоў будзе не дружным і расцягнецца па часе, што павялічыць тэрміны правядзення жніва-2017. І гэта яшчэ пры тым, калі ў працу хлебаробаў не будзе актыўна ўмешвацца нябесная канцылярыя. Пройдзе дождж, намокнуць сцеблі і ўсё, глушы маторы.

Мы ніяк не можам пазбавіцца яшчэ савецкай рыторыкі "бітваў за ўраджай", а таксама прыпісак і існуючай безадказнасці як асобных вяскоўцаў, так і безгаспадарчасці значнай часткі кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў. Тым не менш праведзены напярэдадні спецыялістамі АПК маніторынг стану пасеваў паказаў, што хлеб на беларускіх землях вырас і яго валавы збор можа дасягнуць 7,3 млн. тон. Іншая справа, што з кожным годам наша хлебная ніва бяднее, бо летась пасля сушкі Беларусь мела 7,5 млн. тон зерня, што аказалася на 13,8 % меней, чым у 2015 годзе.

Пасля прайшоўшай селектарнай нарады паўсюдна працаўнікоў вёскі чакалі вельмі напружаныя некалькі месяцаў працы, бо акрамя жніва трэба было весці і ўборку лёну, працягваць нарыхтоўку кармоў, парадкаваць салому і пачынаць крыху пазней ворыва глебы пад сяўбу азімых, уборку бульбы і іншага вырашчанага ўраджаю. А ў нас пры гэтым любяць патрабаваць, што памры, але дай вынік вышэй, чым у мінулыя гады. І як гэта зрабіць, калі ўлічыць, што ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі дрэнна падрыхтаваліся да жніва ( па краіне не адрамантавалі 7-8 % збожжаўборачных камбайнаў ад іх наяўнасці). Былі на месцах праблемы з гатоўнасцю зернесушыльных комплексаў, адчуваўся там і недахоп падрыхтаваных механізатарскіх кадраў.

Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, беларусам няма падстаў хваляваца, бо з хлебам краіна будзе. Паўсюдна падчас жніва людзі стараюцца, ні лічацца з часам, працуюць ад цямна да цямна, бо іншай магчымасці зарабіць вялікія грошы, як на ўборцы і падчас пасяўной, у вяскоўцаў проста не бывае. У дадатак многім неўзабаве прыйдзецца адпраўляць дзяцей у школу, старэйшых юнакоў і дзяўчат на вучобу ў горад (а гэта немалыя расходы для сямейных бюджэтаў) і таму стымул плённа папрацаваць ёсць вялікі. Наша зямля – даволі спрыяльная і, сапраўды, можа пракарміць у два разы болей насельніцтва, чым мы зараз маем.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 17.08.17 | | | | Пятніца 18.08.17 | | | | Субота 19.08.17 | | | | Нядзеля 20.08.17 | | | | Пн.21.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +17 | +18 | +24 | +21 | +19 | +20 | +25 | +19 | +18 | +19 | +20 | +19 | +17 | +18 | +19 | +11 | +10 | +13 | +16 |
| Ціск | 751 | 751 | 750 | 750 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 746 | 746 | 746 | 746 | 743 | 741 | 744 | 746 | 746 | 746 |
| Вецер м/сек | 5 Пд-У | 5 Пд-У | 5 Пд | 4 Пд-У | 5 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 1 З | 3 Пд-У | 4 Пд | 5 Пд | 4 З | 1 У | 3 Пд | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 3 З | 4 З | 4 З |
| Вільготнасць | 97 | 90 | 70 | 83 | 84 | 76 | 62 | 98 | 100 | 87 | 96 | 100 | 100 | 94 | 89 | 100 | 98 | 99 | 76 |

## Дзень за днём

**А. Лукашэнка дaручыў завяршыць жніво да 20 жніўня. У Беларусі змянілі парадак прадастаўлення дзяржаўнай сацдапамогі. За паўгода колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 9 тысяч чалавек. Міністэрства адукацыі Беларусі зацвердзіла новыя навучальныя праграмы для школ. Звыш 200 беларусаў накіравалі вучыцца за кошт дзяржбюджэту ў ваенныя ВНУ Расіі. Пластыкавыя бутэлькі з 2020 года людзі змогуць здаваць за грошы. Жнівень прынёс беларусам не толькі спёку, але і лiўні з градам, ураганным ветрам. Навальніцы з ветрам зноў абясточылі яшчэ 519 населеных пунктаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Расія.** Прэм'ер-міністр Д. Мядзведзеў заявіў, што надзей на паляпшэнне адносін з ЗША няма, краіне амерыканцы аб'явілі сапраўдную гандлёвую вайну на многія дзесяцігоддзі.

**Германія.** Санкцыі ЗША, як пацвердзіў "Der Spigel", ставяць мэтай паставіць эканоміку Расіі на калені, але гэта толькі ўмацуе пазіцыі "ястрабаў" у акружэнні Пуціна.

**Бельгія.** З-за паставак газавых турбін Siemens у Крым ЕС увёў яшчэ больш жорсткія санкцыі супраць Расіі, яны закранулі ўжо 153 фізічных і 40 юрыдычных асоб РФ.

**Бразілія.** Апазіцыі ў парламенце не ўдалося прыцягнуць да адказнасці прэзідэнта Мішэля Тэмера, большасць дэпутатаў вырашылі не перадаваць яго справу ў Вярхоўны суд.

**Венесуэла.** Генеральны пракурор Луіза Артэга ініцыявала правядзенне расследвання па падазрэнні ў фальсіфікацыях падчас выбараў у Нацыянальны ўстаноўчы сход, краіна на мяжы вайны.

**Сірыя.** Агентства Reiter паведаміла, што з пачатку года ў краіне загінула мінімум 40 рускіх ваенных, аднак Міністэрства абароны РФ гэта замоўчвае, хаваюць іх таемна.

**Украіна.** Мост праз Керчанскі праліў у Крым, як заявіў палітолаг І. Прэабражэнскі, тупіковы аб'ект, бо федэральная траса далей на Сімферопаль яшчэ не хутка будзе гатова.

**Расія.** Папулярны мэр Екацерынбурга Я. Ройзман заявіў, што калі Крэмль не дапусціць да выбараў А. Навальнага, гэта засведчыць слабасць улады, што пуцінцы баяцца перамен.

**Польшча.** Суд ЕС абавязаў урад краіны неадкладна спыніць высечку дрэў у Белавежскай пушчы, палякі сцвярджаюць, што пляцць толькі сухастой і заражаныя жуком-караедам.

**Расія.** Краіна апынулася ў новай дэмаграфічнай яме, сёлета рэзка на 11 % скарацілася колькасць народжаных дзяцей, сітуацыя будзе пагаршацца з-за эканамічных цяжкасцей.

**Украіна.** Сакратар Рады нацбяспекі А. Турчынаў пацвердзіў, што краіна неўзабаве заблакуе і перакрые поўнасцю вяшчанне расійскага тэлебачання і радыё на Данбасе.

**Індыя.** Больш 50 жанчын у штатах Хар'яна і Раджастан паскардзіліся ў паліцыю, што на іх напаў невядомы і адрэзаў ім валосы, пакуль яны аказваліся без прытомнасці.

**Італія.** У краіне абвясцілі чырвоны ўзровень небяспекі, бо тэмпература паветра ў 26 градах, на востраве Сардзінія паднялася да рэкордных 50 градусаў цяпла, тут усюды пакутуюць ад засухі.

**Францыя.** "Кантрактам веку" назвалі эксперты пакупку ФК "Пары Сен-Жэрмен" за 222 млн. еўра ў "Барселоны" 25-гадовага бразільскага нападаючага Неймара.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка паведаміў, што ніякай адмены дэкрэта № 3 аб "дармаедах" не можа быць, дзяржава прымусіць працаваць як мінімум 300 тысяч непрацуючых людзей.

**Слуцк.** Рассельгаснагляду не спадабалася беларускае марожанае, ён увёў забарону на пастаўкі прадукцыі кампаніі "Марозпрадукт", вядомай брэндамі "Гоша", "20 капеек".

**Мінск.** Міністр працы і сацабароны І. Касцевіч пацвердзіла, што непрацуючыя беларусы будуць плаціць за паслугі, якія аплочваюцца з дзяржбюджэту.

**Фаніпаль.** На заводзе "Штадлер Мінск" выпусцілі першую партыю з 6 сучасных трамваяў для Расіі і пачалі працу над цягнікамі для Нарвегіі, на 2018 г. ёсць заказы з Венгрыі, Чэхіі.

**Светлагорск.** Пасля працяглай паўзы падрадчыкі з Кітая пачалі замену бракаванай кабельнай прадукцыі на ўзводзімым новым заводзе па выпуску цэлюлозы.

**Мінск.** Адначасова з вобшукам у офісе незалежнага прафсаюза РЭП фінансавая міліцыя затрымала і адпусціла яго кіраўніка Г. Фядыніча за нібыта ўхіленні ад выплат падаткаў.

**Карэлічы.** На радзіме нацыянальнага героя Чылі, знакамітага беларуса Ігната Дамейкі ў вёсцы Мядзведка пабывалі яго праўнукі, якія прыехалі з ЗША, Чылі і Аўстраліі.

**Вязынка.** Пасля чатырох сутак пошукаў у лесе побач з месцам жыхарства знайшлі труп 14-гадовай дзяўчынкі, адзінай у сям'і, якую задушыў 23-гадовы мінчанін-дачнік.

**Вілейка.** Падчас наваальніцы з бурай у вёсцы Кобузі вялікае дрэва ўпала на мікрааўтобус, у якім знаходзіся двое дарослых і 5 дзяцей, ад удару загінула 10-гадовая дзяўчынка.

**Мінск.** Старшыня Саюза пісьменнікаў генерал М. Чаргінец назваў "сукіным сынам" пераможцу творчага конкурсу А. Уласенку, калі той папрасіў яго казаць па-беларуску.

**Жлобін.** У суд паступіла справа 31-гадовай ВІЧ-інфіцыраванай гараджанкі, яе могуць пасадзіць за парушэнні правілаў паводзін у сэксе з палавым партнёрам.

**Бабруйск.** Захварэўшаму на ДЦП II ступені 10-гадоваму хлопчыку, якому забаранілі займацца футболам, АБФФ і "Турэцкія авіялініі" падарылі паездку на Суперкубак УЕФА.

**Пухавічы.** У прылазніку абакрала сваю заснуўшую п'яную сяброўку 33-гадовая жанчына, яна 2 месяцы назад выйшла на волю з турмы і цяпер зноў можа адправіцца туды на 3 гады

**Столін.** Позна вечарам паблізу райцэнтра разбіліся на мапедзе двое 15-гадовых падлеткаў, калі каталіся на мапедзе без шлемаў, больш пацярпела дзяўчо, яна ў рэанімацыі

**Мядзел.** Ураганны вецер паваліў днём два вялікія дрэвы, якія пацягнулі за сабой значны кавалак дзёрну і вырвалі частку берагу возера Нарач, у якое ўрасло карэнне.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** За паўгода, як пацвердзіў пракурор вобласці В. Сушчынскі, у Прыдзвінні выявілі 116 карупцыйных злачынстваў, да крымінальнай адказнасці прыцягнулі 56 начальнікаў.

**Руба.** Пасля завяршэння будаўніцтва запусцілі ў эксплутацыю на Заходняй Дзвіне буйнейшую ў краіне Віцебскую ГЭС, штогод яна будзе даваць 138 млн. кВт/г. энергіі.

**Віцебск.** Праверка Камітэта дзяржкантролю выявіла ў 5 раёнах вобласці, што перад жнівом шмат камбайнаў былі спраўныя толькі на паперы, а 31 не прайшлі тэхагляд.

**Паставы.** Паблізу райцэнтра запусцілі ў эксплуатацыю буйнейшую ў Беларусі падстанцыю на 330 кВ/т узводзімай Бел АЭС, яна аб'яднала энергасістэмы 3 абласцей.

**Сянно.** Кампанія з Кітая Drex Food падпісала дагавор і пачынае ўзвядзенне сучасных малочных комплексаў ў гэтым і Чашніцкім раёнах коштам 200 млн. USD інвестыцый.

**Ушачы.** Супраць старшыні аднаго з сельсаветаў раёна распачалі крымінальную справу, ён за кошт дзяржбюджэту закупляў запчасткі на 394 рублі для ўласнага аўтамабіля.

**Полацк.** З-за затрымкі праектнай дакументацыі рэканструкцыю плошчы Ф. Скарыны з заменай інжынерных сетак вырашылі пачаць пасля Дня беларускага пісьменства.

**Сянно.** Малады 24-гадовы настаўнік гісторыі з райцэнтра А. Бараноўскі напісаў і за ўласныя сродкі выдаў 3-ю па ліку кнігу-даведнік "Звязаны лёсам з Сенненшчынай".

**Верхнядзвінск.** Біскуп Віцебскі А. Буткевіч узначаліў традыцыйны фэст у касцёле св. Тройцы ў Росіцы, прысвечаны памяці святароў-пакутнікаў, якіх спалілі з людзьмі вайной.

**Докшыцы.** Амаль 400 вернікаў адсвяткавалі ў вёсцы Сітцы 100-годдзе сваёй царквы св. Георгія, Боскую ўрачыстую літургію правёў біскуп Полацкі і Глыбоцкі Феадосій.

**Глыбокае.** Пасля апоўначы па невядомай пакуль прычыне загарэўся дом у вёсцы Пятроўскія, полымя знішчыла дах, столь, маёмасць 57-гадовага гаспадара.

**Браслаў.** Падчас адпачынку на адным з азёр утапілася 90-гадовая турыстка з Расіі, па краіне меней за тыдзень у вадзе загінулі 15 чалавек, з пачатку купальнага сезона – 119.

**Віцебск.** Падчас штурму прытона з прастытуткамі міліцыя затрымала 39-гадовага расійскага бацюшку, які збіраўся вывезці жанчын у бардэль Санкт-Пецярбурга.

**Полацк.** Моцны шквалісты вецер паваліў у горадзе адразу 9 дрэў, у адным выпадку яно ўпала на прыватны дом, шматлікія раненні галавы ад сукоў атрымаў 51-гадовы мужчына.

**Гарадок.** Пажылая пара, 69-гадовыя муж з жонкай з вёскі Канчане пад вечар пайшлі ў лес за грыбамі і заблудзіліся, блукалі амаль 5 сутак, мужчына памёр, а жонка выжыла.

*Служба інфармацыі "ВГ" (паводле інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ці крыўдзіцеся вы, калі вас называюць бульбашамі?

**12 жніўня ў Германавічах ужо ў трэці раз прайшоў бульбяны фэст. За няпоўныя два стагоддзі бульба настолькі ўвайшла ў жыццё беларусаў, што нам нават цяжка ўявіць, як нашы продкі без яе абыходзіліся.**

**З гэтай нагоды нашы суседзі (хіба найбольш з усходу) называюць нас бульбашамі. Ці крыўдная гэта мянушка для беларуса?**

**■ Зміцер Лупач**



**Алёна Лапацкая, Лужкі:**

– Крышку так. Мы называем бульбу другім хлебам, але на гэты другі хлеб мы ўзбіліся таму, што ў нас не хапала першага. І бульбаш, гэта нешта такое трохі прыніжальнае. Хоць некаторыя гавораць, што гэта нацыянальная ідэя. Не зусім з гэтым згодная, але ўсё ж на гэтым наш свет стаіць.

**Надзея Вайцюль, Каўшэлева:**



– Ні кропелькі не крыўдна, гэта наш брэнд, наш гонар, гэта наша такая адметная рыса, нас як нацыі. Я не крыўджуся.

**Ада Райчонак, Германавічы:**



– Для мяне не. Я да гэтага ўжо прызвычайлася, што я бульбашка. Таму нічога крыўднага тут не бачу.

**Зміцер Курцэвіч, Латыголь:**



– Не вельмі крыўдна, але ўсё ж неяк з'едліва гэта гучыць. Раней у савецкай арміі нас так называлі, у асноўным расіяне. І гэта рэзала вуха, бо гучала неяк прыніжальна. Калі мы сябе так называем, то можа гэта і некрыўдна, а вось калі так нашы ўсходнія суседзі нас называюць, то ў іх тоне ёсць нейкае прыніжэнне.

**Марыя Тупека, Дзеркаўшчына:**



Ані не крыўдна. Не бачу тут ніякай знявагі. Любім мы бульбу, таму так нас і называюць.

**Таццяна Севярынец, Віцебск:**



– Мы – беларусы. А бульба ўвогуле не наш нацыянальны прадукт, яна ж з Амерыкі завезеная, наша зямелька толькі прыняла яе. Гэтазвычайная маргінальная з'ява, прынізіць іншы народ. Я лічу, што гэта нядобра, мне гэта не падабаецца. У маім дзяцінстве гэтага слова яшчэ не ведалі, ніхто нас так не называў. Відаць, гэта пайшло з савецкага войска. Нехта невялікага розуму прыдумаў гэта слова, і яно атрымала распаўсюд. Бульбашамі могуць сябе называць людзі без нацыянальнай годнасці, я лічу, нам трэба пазбаўляцца ад гэтай назвы.

# Хочаш свята ў сваім двары? Арганізуй яго сам!

■ Уладзімір Скрабатун

Некалі, гадоў 40 таму, Глыбоцкая ПМК-41 узвяла для сваіх працаўнікоў два жылыя 5-павярховыя дамы па вул. Леніна, №№ 129-А і 135, разам, дзесьці – 120 кватэраў. Хоць будаўнічая арганізацыя даўно скасаваная, а яе колішнія працаўнікі ўжо паважанага ўзросту, аднак яны не забываюцца на сваё прафесійнае свята – Дзень будаўніка. 13 жніўня жыхары гэтых двух дамоў, што знаходзяцца ў мікрараёне МКК, зладзілі ў сябе ў двары свята, запрасілі самадзейных артыстаў з г.п. Падсвілле, зладзілі імправізаваную глядацкую залу з прынесеных лавак, упрыгожылі сцэну букетамі і вазамі з кветак, самі зрабілі выпечку пірагоў для частавання дарагіх гасцей.

Свята можа быць агульнанацыянальным, гарадскім, і, як паказвае практыка, і дваровым. Для кожнага ёсць свае асобныя крытэрыі адзнакі. Як для дваровага свята, па меркаванні аўтара гэтых радкоў, – мерапрыемства арганізаванае жыхарамі дамоў №№ 129-А і 135 – можна паставіць вельмі высокую адзнаку. Выдатны канцэрт падсвільскіх артыстаў, шмат прысутных, некаторыя з іх пад добрую музыку пажадалі і патанчыць.

Жыхарка аднаго з дамоў, Валянціна Сівіцкая, член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь, ветэран студыі Тэлерадыёкампаніі "Віцебск" прачытала патрыятычны верш, які быў прысвечаны суседскаму сяброўству. Суседскае сяброўства – самае дарагое, што можа быць у адносінах паміж людзьмі, жыхарамі шматкватэрных дамоў, якія большую частку жыцця жывуць побач, у адным доме, адным пад'ездзе. Яна адзначыла, што ў сталым узросце, а хутчэй – у росквіце сваіх сіл – вярнулася жыць туды, дзе і нарадзілася, на любімую Глыбоччыну.

Выступленні падсвільскіх артыстаў запомніліся і спадабаліся прысутным, аб чым сведчылі гучныя пляскі ў далоні і воклічы "Брава!". Завяршылася канцэртная праграма патрыятычнай песняй "Віншавальная" у выкананні падсвільчанкі Валянціны Шымко.

На развітанне арганізатары свята падарылі пірог уласнай выпечкі прысутным прадстаўнікам райвыканкама.

Свята, якое адбылося ў мікраараёне МКК, можа быць добрым прыкладам для жыхароў іншых мікрараёнаў Глыбокага, бо адзначаць супольна можна не толькі прафесійныя святы, але і святы мікрараёнаў, напрыклад, штогадовы Дзень Беразвечча, якое калісь было асобным мястэчкам. Можна і рыцараў сюды запрасіць, а гандаль паставіць палаткі і будзе частаваць шашлыкамі... І месца выдатнае ёсць – пустка, дзе хацелі пабудаваць Лядовы палац...



**Валянціна Шымко спявае "Віншавальную":** Мы першы бакал уздымаем па праву За Белую Русь, за нашу Дзяржаву, За славу яе, за гордую славу ..."



**Свята двух дамоў на Дзень будаўніка. Канцэрт самадзейных артыстаў з г.п. Падсвілле.**



**Нечаканую "інсталяцыю" зрабілі рамонтнікі да Дня будаўніка на плоце ля дома па зав. Школьным, 8.**

## ІП у малых гарадах Беларусі стане прасцей адкрываць у сваіх дамах магазіны, кафэ, цырульні

Прадпрымальнікам у малых гарадах стане прасцей адкрываць у сваіх дамах магазіны, кафэ, цырульні. Аб гэтым 13 жніўня ў праграме "Галоўны эфір" на тэлеканале "Беларусь 1" паведаміла начальнік упраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю (МАРГ) Беларусі Віялета Бразоўская, паведамляе БелТА.

Такую магчымасць ІП плануецца прадаставіць праектам указа "Аб некаторых мерах па стварэнні ўмоў для развіцця гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання насельніцтва". "Ён прадугледжвае магчымасць у сваім доме, напрыклад, на першым паверсе, адкрыць невялікую гандлёвую кропку, кафэ, аб'ект бытавых паслуг", – адзначыла Віялета Бразоўская.

"Дакумент дае магчымасць не змяняць мэтавае прызначэнне памяшкання, што вельмі добра", – дадала яна.

Як паведамлялася, МАРГ прапанавала для індывідуальных прадпрымальнікаў і мікраарганізацый, якія працуюць у гандлі, бытавым абслугоўванні і грамадскім харчаванні **ў гарадах да 20 тыс. насельніцтва, стварыць умовы, падобныя да ўмоў у аграэкатурызме.** Размова ідзе аб увядзенні спецыяльнага падатковага рэжыму – 1 базавая велічыня ў год на кожны аб'ект (1 БВ цяпер складае Br23). Акрамя таго, прапануецца ўстанавіць і іншыя льготы, у іх ліку купля нерухомай маёмасці без аўкцыёну па рынчаным коште. Таксама плануецца распрацаваць спецыяльныя санітарныя нормы, правілы пажарнай бяспекі.

*БелТА.*



Піцэрыя ў Літве.

## У цэнтры ўвагі – дзеці!




Напярэдадні новага навучальнага года Міністэрства па надзвычайных сітуацыях праводзіць рэспубліканскую пажарна-прафілактычную акцыю «У цэнтры ўвагі – дзеці!», якая накіравана на прафілактыку дзіцячага траўматызму і гібелі дзяцей ад пажараў з прычыны пакідання іх без нагляду.

У ходзе акцыі работнікі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях на 1 этапе правядуць прафілактычныя мерапрыемствы на аб'ектах гандлю, якія спецыялізуюцца на рэалізацыі тавараў для выхаванцаў дзіцячых садкоў і школьнікаў. На 2 этапе пройдуць гутаркі ва ўстановах адукацыі – выступленні на школьных лінейках, класных гадзінах і бацькоўскіх сходах. Завяршаючым этапам акцыі стане выступленне работнікаў МНС у дашкольных установах, дзе дзеці паглядзяць тэматычныя навучальныя мультфільмы, гуляць у навучальныя гульні па пытаннях бяспекі. Ратавальнікі нагадваюць, што самым важным мерапрыемствам бяспекі для дзяцей з'яўляецца пастаянны кантроль і нагляд за дзіцем з боку дарослых.

*Глыбоцкі МНС.*

Да ўвагі нашых чытачоў!

## Панядзелак – апошні дзень падачы абвестак, каб яны патрапілі ў бягучы нумар, пры іншым раскладзе – абвестка трапіць у наступны нумар

**Друкарня "Знаменіе" пераходзіць на іншыя тэхналогіі вырабу друкаванай прадукцыі.**

Абяцаюць, што і нашая газета па якасці не будзе ўжо такой "шэрай", а будзе "чысцейшай". У сувязі з гэтым змяняецца графік падачы нашай газеты ў друкарню. Газета мусіць – апошні тэрмін – быць у друкарні ўжо ў аўторак да 18:00. То бок, мінімум да 17:00, яна павінна ў нас быць гатовая – звярстаная і вычытаная карэктарам. Гадзіна пасля гэтага пойдзе на адсылку па электроннай пошце. Больш нічога істотна не змяняецца: у сераду газета друкуецца, у чацвер, як і раней, – у шырокім продажы.

*Ул. Скрабатун.*



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Прычына ўсіх праблем ляжыць у сферы маралі

**У Берлін прывезлі першых дзвесце палонных дзяўчат-беларусак. Іх абследаваў асабісты доктар Гітлера... і выявіў, што 98% з іх – нявінніцы. Ён сеў за стол, узяў паперу і напісаў дакладную запіску Гітлеру...**

**"Прырода дала чалавеку ў рукі зброю – інтэлектуальную і маральную сілу, але ён можа карыстацца гэтай зброяй і ў адваротны бок, таму чалавек без маральных асноў аказваецца істотай самай нягоднай і дзікай, нізіннай у сваіх палавых і смакавых інстынктах."**

*Арыстоцель*

Норавы бываюць добрыя і злыя. Мараль бывае правільная і сапсаваная. Калі нам патрэбны адказы на пытанні, якія ў нас узнікаюць па жыцці, бо наша Беларусь Богам і Прыродай не абдзелена, але сёння ў беднасці, мы шукаем іх падчас у эканоміцы, а патрэбна шукаць у сферы маралі.

Паглядзіце, што адбываецца з нашым падрастаючым пакаленнем. Сотні тысяч дзяцей выхоўваюцца ў няпоўных, а, галоўнае, у нядобранадзейных сем'ях. А гэта наша змена!

Мы лічым, што самымі дрэннымі парокамі чалавека, якія да непазнавальнасці змяняюць яго аблічча, – гэта алкагалізм і наркаманія. Вынікі гэтых захапленняў бачны простым вокам: згубленасць прыстойнага выгляду, упэўненасць у сабе, праблемы ў грамадстве, фінансавае і матэрыяльнае становішча ў сям'і і г.д. Чалавек паступова апускаецца на самае дно жыцця. Канечне, безвыходных сітуацый не бывае. І калі тыя, хто дайшоўшы да дна, знайшоў тую саломінку, якую працягнуў Усявышні Розум, і, ухапіўшыся за яе, вярнуўся ва ўлонне здаровага жыцця.

Вялікае Жыццё падрыхтавала яшчэ больш схаваныя спосабы праверкі нашай духоўнасці – праз рабаванне чалавечай волі іншымі сродкамі. Самае распаўсюджаная – праверка скупасцю. Чым менш багаты чалавек, тым больш ён сардэчны, здольны дапамагаць, у тым ліку, матэрыяльна, і, наадварот: многія багатыя людзі па сваёй прыродзе скнары. А ўсё пачынаецца з бяскрыўднага імкнення назапасіць грошай на тую або іншую рэч, важны атрыбут дамашняй гаспадаркі. Быццам бы нічога дрэннага ў гэтым няма, бо на самой справе капейка рубель зберагае. Але падобныя адносіны да назапашвання вельмі часта перарастаюць у іншыя захапленні – жаданне памнажаць тое, што ўжо ёсць.

Паралельна развіваецца зайздрасць да тых, хто ўжо мае тое, чаго няма ў нас, і грэбаванне тымі, хто стаіць на ступеньку ніжэй у матэрыяльным плане. Самае дрэннае ў такім спосабе існавання тое, што захапленне нажывай становіцца ўсім: думкамі, паводзінамі, сферай зносін і мэтай жыцця. Здавалася б, што тут дрэннага, бо чалавек не крадзе, не забівае. Аднак мы забываем, што вялікія грошы не бываюць белага колеру, таму што жаданне назапашвання абавязкова будзе шукаць усемагчымыя шляхі чорнага ходу, бо, як гаворыцца, грошы не пахнуць. На самой справе яны пахнуць, таму што бруд іх паходжання ўвабраў у сабе чалавечае сумленне. А менавіта сумленне з'яўляецца непадкупным пракурорам на Вышэйшым Судзе.

У 1941 годзе, у ліпені, нямецкая ваенная машына лавінай перла на Усход. У Берлін прывезлі першых дзвесце палонных дзяўчат-беларусак. Іх абследаваў асабісты доктар Гітлера... і выявіў, што 98% з іх – нявінніцы. Ён сеў за стол, узяў паперу і напісаў дакладную запіску Гітлеру: *"Мой дарагі фюрэр! Нам патрэбна тэрмінова спыніць ваенную кампанію супраць Саветаў, інакш мы прайграем гэту вайну..."* А гэта ж быў ліпень 1941 года! Ён, урач, чалавек далёкі ад ваеннай справы, выявіў усяго адзін маральны фактар, адзін, па якім зразумеў, што вайна будзе прайграная.



Маральнасць грамадства заўсёды вымяраецца па маральнасці жанчыны, заўсёды. Мы гаворым аб тым, што сёння інтымны сорам пачынае забывацца. Паглядзіце, як ходзяць маладыя мамы. Наколачкі ля інтымнага месца, наколачкі адсюль да калена, спаднічка такая, што прысесці немагчыма. Дзе мамы, пытаемся! Выхаваўчы працэс – гэта кожны дзень праца. Гэта імкненне жыць унутраным светам перажыванняў, якія акружаюць дзяцей, якія знаходзяцца побач з намі. Бо ў іх ёсць свае пытанні, на якія патрэбна атрымаць адказы. І калі яны іх не атрымоўваюць, то ім могуць падказаць зусім не так, як ёсць. На жаль, сёння інтымны сорам, гэта важнейшая складаючая нармальнага, здаровага грамадства, выключаны з інфармацыйнага поля.

Паглядзіце, што творыцца на нашых тэлеэкранах! Адкрыйце "Пошук" у інтэрнэце – якія карціны выскакваюць? Няма фільтра. Няма цэнзуры! Многія кажуць: "Цэнзура не патрэбна". Пачакайце, калі цэнзура задае маральную меру, то яна, ой, як патрэбна. Калі цэнзура – гэта маральная мера, то яна абавязкова павінна прысутнічаць. А калі далдоняць: "Лібералізм! Плюралізм! Рабі, што хочаш!" Дзе ў прыродзе плюралізм? Хто яго бачыў? Паглядзіце, усё абмежавана. Сажалка мае сваю тэрыторыю, возера – сваю, сяло займае сваю прастору, горад – сваю. Усё надзелена мерай. Разумееце? Мерай, а не самавольствам.

З усіх чалавечых захапленняў, пасля самалюбства, самая моцная, самая жудасная – уладалюбства. Нішто ў параўнанні з ёй, з жаданнем быць вяршыцелем чалавечых лёсаў не параўнальна. Гісторыя назапасіла вялікую колькасць фактаў розных загавораў, забойстваў, злачынстваў перад чалавецтвам за немагчымасць адначасова быць і суддзёй, і пракурорам, і адвакатам над тымі, у каго адымалася ўлада.

Барацьба за ўладу ў Расіі ў 20-30 гадах мінулага стагоддзя – гэта эпоха забойстваў, атруты і здзекаў. "Лепшае" (па задуме Сталіна) – гэта давядзенне чалавека катаваннямі да такога стану, калі ён прызнаваўся ў няздзейсненых злачынствах і амаль выпрашваў сабе вышэйшую меру наказання.

Тры спакусы мучаюць людзей: похаці цела, гардыня і любоў да багацця. Ад гэтага – беды людзей. Без похаці, гардыні і карыстальюбства ўсе людзі жылі б шчасліва. Як жа пазбавіцца ад гэтых спакусаў? Пазбавіцца ад іх цяжка, галоўнае таму, што зародак іх у самой прыродзе нашай. Ёсць толькі адзін сродак: праца кожнага над самім сабой, над сваім унутраным духоўным светам. Адно, што могуць зрабіць людзі для свайго дабрабыту – гэта знішчэнне ў сабе і похаці, і гардыні, і карыстальюбства. Ніякае паляпшэнне немагчыма, пакуль кожны не пачне гэта паляпшэнне з самога сябе.

*Па матэрыялах перыядычнага друку, кіно і асабістага жыцця.*

**А. Р. Абрамчык,** *ст. дзяржінспектар.*

# Інспекцыя ўзмацняе кантроль за нарыхтоўкай ягад і грыбоў

**Глыбоцкая міжраённая інспекцыя ўзмацняе кантроль за нарыхтоўкай ягад і грыбоў юрыдычнымі асобамі, вядучымі лясную гаспадарку, і грамадзянамі, выканання ўстаноўленых правілаў збору і нарыхтоўкі.**

Нарыхтоўка і збор дзікарослых ягад, якія выкарыстоўваюцца ў якасці харчовых лясных рэсурсаў, і грыбоў ажыццяўляюцца на любых участках ляснога фонду, за выключэннем тых, дзе гэты від лесакарыстання забаронены ці абмежаваны ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Распаўсюджаным парушэннем з'яўляецца нарыхтоўка ягад і грыбоў у неўстаноўленых (забароненых) месцах або без наяўнасці адпаведных дакументаў (участкі лясного/ фонду асабліва ахоўных прыродных тэрыторый і г. д.). Пры зборы ягад забараняецца ўжываць розныя механічныя прыстасаванні (саўкі, грабянцы і таму падобнае), якія наносяць пашкоджанні зараснікам ягаднікаў і зніжаюць ураджай ягад у наступныя гады. Каб пазбегнуць пашкоджання грыбніцы пры зборы грыбоў, іх неабходна зразаць нажом на глебе ля асновы грыба або асцярожна выкручваць без парушэння ляснога падсцілу. Разграбанне падсцілу з мэтай збору грыбоў, асабліва пры нарыхтоўцы лісічак, забараняецца. Таксама варта папярэдзіць і аб адказнасці за парушэнне тэрмінаў і спосабаў нарыхтоўкі і збору дзікарослых ягад, а таксама спосабаў нарыхтоўкі і збору грыбоў, прaводзяць тлумачальную працу сярод насельніцтва аб неабходнасці рацыянальнага выкарыстання і аховы ягаднікаў і грыбніц.




**Нагадаем нашым чытачам: пры ўсім тым, што "камбайн" для збору лясных ягад можна вольна купіць і ў Беларусі, замовіўшы яго праз інтэрнэт за 19 руб. 45 кап., карыстацца ім забаронена!**

Згодна з артыкулам 15.26. Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях за парушэнне ўстаноўленых тэрмінаў нарыхтоўкі, ужыванне забароненых сродкаў або метадаў збору або нарыхтоўкі грыбоў, іншых дзікарослых раслін або іх частак або іншае парушэнне правілаў збору або нарыхтоўкі цягнуць папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, на юрыдычную асобу – да пяцісот базавых велічынь.

Прытым неабходна адзначыць, што самавольны збор або знішчэнне грыбоў, іншых дзікарослых раслін, якія адносяцца да відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, і іх частак або ўчыненне іншых дзеянняў, якія могуць прывесці да іх гібелі, скарачэння колькасці або парушэння асяроддзя вырастання, не дапускаецца.

Нарыхтоўваючы дары лесу, неабходна беражліва ставіцца да ягаднікаў і грыбніцаў, каб не нанесці шкоду прыродзе.

Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта ўстаноўлены дазволеныя тэрміны збору брусніц і журавін па Віцебскай вобласці ў 2017 годзе, брусніцы з 26 жніўня, журавіны-з 9 верасня.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя спадзяецца, што ў сезон нарыхтовак парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства будуць зведзены да мінімуму, а лесакарыстанне будзе ажыццяўляцца цывілізаванымі спосабамі.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8(02156)5-59-70 або на мабільныя тэлефоны: МТС: 897-23-02, МТС: 890-55-28, МТС: 249-45-49, МТС: 645-66-78.

**В. Е. Катовіч,**
*ст. дзяржінспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Адкрываецца сезон палявання на лася і аленя

**З 20 жніўня, у адпаведнасці з Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання адкрываецца сезон палявання на лася, аленя высакароднага, аленя плямістага, лань.**

У гэты перыяд дазволена здабываць дарослых самцоў, а таксама селекцыйных жывёл любога полу і ўзросту. Можна выкарыстоўваць наразную паляўнічую зброю з дульнай энергіяй кулі звыш 3000 джоулей і гладкаствольную паляўнічую зброю з выкарыстаннем патронаў, падрыхтаваных кулямі, паляўнічыя лукі і арбалеты.

Паляваць дазволена ружэйным спосабам з засады, з падыходу на працягу сутак. Для таго, каб паўдзельнічаць у такім паляванні, паляўнічаму неабходна звярнуцца да арандатара паляўнічых угоддзяў пры ўмове наяўнасці ў паляўнічага сапраўдных дакументаў на права палявання.

У выпадку, калі паляўнічы або грамадзянін, які не мае дазваленчых дакументаў на права палявання, вырашыцца на незаконную здабычу, памер кампенсацыі шкоды, згодна з дзеючым таксам за адну асобіну лася і аленя высакароднага складзе 300 базавых велічыняў, аленя плямістага і лань – 120 базавых велічынь, таксама ўзбуджаецца крымінальная справа.



Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету звяртае ўвагу паляўнічых на неабходнасць захавання мер бяспекі пры абыходжанні з агнястрэльнай паляўнічай зброяй. Паляўнічая зброя павінна быць разраджаная пры:

- пераадоленні на паляванні розных перашкод, пераходах па скарб праз ручаі, рэкі;
- падыходзе да населенага пункту, месца прывалу, збору;
- сустрэчы са службовымі асобамі органаў паляўнічага кантролю, унутраных спраў, а таксама службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, якія ажыццяўляюць ахову паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

Гэта толькі малая частка тых мер бяспекі, якія павінны строга выконваць паляўнічыя.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі не губляюць надзею на тое, што нашы паляўнічыя не парушаць Правілы вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

Аб усіх правапарушэннях, якія здзяйсняюцца ў прыродаахоўнай сферы, вы можаце паведаміць на тэлефон даверу 8-(02156)-5-59-70 або мабільныя тэлефоны: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (мтс).

**Ю. В. Заяц,**
*часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС.*

# Калі Вы кіруеце гужавой павозкай – што неабходна ведаць і выконваць?

**З 10 жніўня па 10 верасня 2017 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна будзе праводзіцца рэгістрацыя і тэхнічны агляд коннага транспарту. Просьба да ўладальнікаў коннага транспарту з 20 жніўня па 10 верасня 2017 года – прадставіць гужавыя павозкі для рэгістрацыі і правядзення тэхнічнага агляду, у сельскія (пасялковыя) саветы – па месцы жыхарства альбо ў Дзяржаўтаінспекцыі Глыбоцкага РАУС.**

У адпаведнасці з Правіламі дарожнага руху: вадзіцель – фізічная асоба, якая кіруе транспартным сродкам (гужавая павозка з'яўляецца транспартным сродкам), за выключэннем асобы, якая навучаецца кіраванню механічным транспартным сродкам (здае кваліфікацыйны практычны экзамен на права кіравання механічным транспартным сродкам), – з'яўляецца кіроўцам. Да кіроўцы прыраўноўваюцца асобы, якія навучаюцца кіраванню механічным транспартным сродкам (прымае кваліфікацыйны практычны экзамен на права кіравання механічным транспартным сродкам) і пры гэтым знаходзіцца ў ім, а таксама вершнік, пагоншчык жывёлы, таму ўсе патрабаванні, якія прад'яўляюцца да кіроўцы, прад'яўляюцца і да асобы, якая кіруе гужавой павозкай.

У адпаведнасці з главой 21 Правілаў дарожнага руху: кіроўцы гужавых транспартных сродкаў, вершнікі і пагоншчыкі жывёлы павінны быць не маладзей за чатырнаццаць гадоў. Кіроўцам гужавых транспартных сродкаў, вершнікаў і пагоншчыкам жывёлы забараняецца: вадзіць жывёл па дарогах агульнага карыстання з удасканаленым пакрыццём па-за населенымі пунктамі; пакідаць жывёл без нагляду на дарозе, пераганяць іх праз чыгуначныя пуці і дарогі па-за спецыяльна абсталяваных месцаў, узгодненых ва ўстаноўленым парадку, а таксама ў цёмны час сутак і (або) пры недастатковай бачнасці дарогі; праводзіць выпас жывёл у межах паласы зямлі, на якой размяшчаюцца дарога і ўсе яе збудаванні. Пры руху па дарозе ў цёмны час сутак і (або) пры яе недастатковай бачнасці на гужавым транспартным сродку спераду павінен быць уключаны ліхтар, які выпраменьвае белае святло, ззаду – ліхтар, які выпраменьвае чырвонае святло. Рух па праезнай частцы дарогі на гужавых транспартных сродках і вершнікаў дазваляецца толькі ў адзін рад на адлегласці не далей за 1 метр ад яе правага краю. Пры гэтым: забараняецца паварочваць налева або разварочвацца на дарозе, якая мае трамвайны пуць, і на дарозе, якая мае больш за адну паласу для руху ў дадзеным кірунку; дапускаецца рух гужавых транспартных сродкаў і вершнікаў па абочыне, калі гэта не стварае перашкоды для бяспечнага руху пешаходаў. Кіроўца коннага транспартнага сродку, вершнік пры выездзе з другараднай дарогі на галоўную ў цёмны час сутак пры недастатковай бачнасці дарогі або ў месцах з яе абмежаванай аглядасцю абавязаны весці жывёлу за аброць.



У Германавічах, Шаркоўшчынскі р-н.

У адпаведнасці з п. 200 Правілаў дарожнага руху - гужавы транспартны сродак павінен быць абсталяваны спераду святлоадбіўнымі элементамі белага колеру, ззаду - чырвонага, мець прадугледжаныя канструкцыяй спраўныя стаяначныя тармазныя прылады і супрацьадкатныя ўпоры.

Нягледзячы на невялікую цану спецыяльных элементаў, якія выкарыстоўваюцца для абсталявання веласіпедаў, гужавых павозак, не кожны гаспадар клапоціцца аб належным абсталяванні свайго транспарту, спрабуючы зэканоміць капейку. У канчатковым выніку такая эканомія можа абярнуцца трагедыяй.

Згодна артыкула 18.23 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях – «парушэнне правілаў дарожнага руху пешаходам і іншымі ўдзельнікамі дарожнага руху або адмова ад праходжання праверкі (агляду)» – парушэнне правілаў дарожнага руху пешаходам, асобай, якая кіруе веласіпедам, гужавым транспартным сродкам, ці асобай, якая ўдзельнічае ў дарожным руху і не кіруе транспартным сродкам, – цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох базавых велічынь. Парушэнне тых жа правілаў дарожнага руху асобамі, здзейсненае ў стане алкагольнага ап'янення або ў стане, выкліканым спажываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, а роўна адмова ад праходжання ва ўстаноўленым парадку праверкі (агляду) на прадмет вызначэння стану алкагольнага ап'янення альбо стану, выкліканага спажываннем наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў, таксічных або іншых адурманьваючых рэчываў, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад трох да пяці базавых велічынь. Здзяйсненне асобамі, вышэйзгаданых парушэнняў правілаў дарожнага руху, якія пацягнулі стварэнне аварыйнай абстаноўкі, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад трох да васьмі базавых велічынь. Здзяйсненне асобамі, вышэйзгаданых парушэнняў правілаў дарожнага руху, што пацягнула прычыненне пацярпеламу лёгкага цялеснага пашкоджання альбо пашкоджанне транспартнага сродку, грузу, дарожнага пакрыцця, дарожных і іншых збудаванняў ці іншай маёмасці, а таксама пакіданне імі месца дарожна-транспартнага здарэння, удзельнікамі якога яны з'яўляюцца, – цягнуць накладанне штрафу ў памеры ад пяці да дваццаці базавых велічынь. Базавая велічыня на сённяшні дзень складае 23 рублі.

**РЭКАМЕНДУЕМАЯ СХЕМА АБСТАЛЯВАННЯ ГУЖАВОЙ ПАВОЗКІ СВЯТЛОАДБІВАЛЬНЫМІ ЭЛЕМЕНТАМІ**




## МНС інфармуе
**на 14.08.2017 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 429;
Гібель людзей – 56, з іх дзяцей –1;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 25;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма

За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінулі **3** чалавекі.

# Мінпрацы прапануе абавязаць наймальнікаў прадастаўляць работнікам бацькоўскі адпачынак

**Норма аб прадастаўленні кароткачасовага бацькоўскага водпуску прапанавана для ўключэння ў праект Працоўнага кодэкса.**

Аб гэтым паведаміла на прэс-канферэнцыі намеснік начальніка аддзела народанасельніцтва, гендарнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Марына Арцёменка. Мяркуецца, што прадастаўленне такога бацькоўскага водпуску будзе абавязкова для наймальніка. Яго працягласць – па жаданні сям'і – да 14 дзён. Скарыстацца такім адпачынкам можна будзе, калі норма увойдзе ў Працоўны кодэкс, у першыя паўгода пасля нараджэння дзіцяці. Дадзены сацыяльны адпачынак не будзе аплачвацца. Цяпер, нагадаем, па законе адпачынак па доглядзе за дзіцём можа аформіць не толькі мама, але і бацька, а таксама іншыя блізкія члены сям'і. Галоўная ўмова – наяўнасць працоўнага месца ў таго, хто хоча сядзець дома з малым. Раней М.Арцёменка паведамляла, што падпраграмай «Сям'я і дзяцінства» дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь» на 2016-2020 гг прадугледжана ў 2016-2017 гг прапрацаваць пытанне аб мэтазгоднасці ўстанаўлення абавязковага сацыяльнага водпуску для бацькоў пры нараджэнні дзіцяці.

*БелТА.*

